# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года

Аўторак, 11 кастрычніка 1994 года

№ 108 (10808)

Цана 30 руб.


## Аўтары "Канцэпцыі развіцця вёскі" — госці рэдакцыі

Чытачы «Мінскай праўды», думаецца, не маглі не заўважыць у №№ 97, 98, 100, 101 і 102 матэрыялы пад нераспаўсюджанай, але актуальнай рубрыкай «Канцэпцыя развіцця вёскі».

Заўважым: перабудова ў АПК, асабліва ў калгасах і саўгасах, пачынаючы з 1991 года хвалюе вельмі многіх. У гарадах, «на асфальце», знайшлося нямала знаўцаў сельскай гаспадаркі, якія «дакладна» ведаюць, што і як трэба рабіць з зямлёй, тэхнікай, жывёлай калгасаў і саўгасаў. Фермерства заходніх краін для іх аказалася асляпляльным узорам. А вось што неабходна беларускаму селяніну, як ён сам хацеў бы гаспадарыць на зямлі — ніхто не лічыў патрэбным спытаць. Ці не таму і склалася такая неверагодна цяжкая сітуацыя ў АПК рэспублікі, што ні Вярхоўны Савет, ні ўрад, ні Мінсельгасхарч Беларусі, бадай, і сёння не могуць дакладна сказаць, куды, па якіх шляхах будзе эвалюцыяніраваць наша вёска.

Гэтую няпростую, але надзвычай патрэбную работу выканалі энтузіясты: сустаршыня Аграрнай партыі Беларусі, дэпутат Стаўбцоўскага раённага Савета, старшыня калгаса «Чырвоны Кастрычнік» А.У.Юнцэвіч, дэпутат Азярыцкаслабодскага сельскага Савета Смалявіцкага раёна, старшыня калгаса імя Арджанікідзе У.П.Лысы, старшыня калгаса «Новы свет» Капыльскага раёна, кандыдат эканамічных навук М.І.Рубель і доктар філасофскіх навук, прафесар І.К.Галко.

Першымі чытачамі свежай навіны ў газеце з"яўляюцца, як вядома, яе супрацоўнікі. Трэба сказаць, што як толькі на старонках «Мінскай праўды» з"явілася некалькі раздзелаў Канцэпцыі, у калектыве рэдакцыі ўзнікла ідэя запрасіць яе аўтараў да сябе, пазнаёміцца з імі бліжэй, бо такое знаёмства заўсёды дае шмат карысці журналістам.

І вось у мінулую пятніцу аўтары Канцэпцыі прыйшлі ў рэдакцыю. Госці пажадалі азнаёміцца з працэсам падрыхтоўкі матэрыялаў да друку, вёрсткай і тэхналогіяй выпуску газеты. А затым адбылася зацікаўленая размова. Кіраўнікі гаспадарак і прафесар І.К.Галко расказалі аб праведзеных у калгасах даследаваннях, замежных паездках і вывучэнні тэндэнцый развіцця фермерства ў ЗША, Швецыі, Галандыі, Германіі і іншых краінах, адказалі на пытанні супрацоўнікаў рэдакцыі.

Было падкрэслена, што фактычна ва ўсіх развітых краінах свету ідзе працэс канцэнтрацыі і спецыялізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці, спалучэння сельскагаспадарчай практыкі з высокімі дасягненнямі сучаснай навукі і камп"ютэрнай тэхнікі. Гэта вызначальны працэс, і тут наша калектыўная сельская гаспадарка не адстае, а практычна ўшчыльную падышла да яднання з навукай, навейшымі тэхналогіямі. Дарэчы, у 70—80-я гады па многіх напрамках гэтае яднанне навукі і практыкі на калгасных палях і фермах ішло вельмі плённа, давала адчувальныя вынікі. Усё спыніў развал народнагаспадарчага комплексу Савецкага Саюза, разбурэнне эканамічнага патэнцыялу рэспублікі. Давяршае гэты працэс непарытэт цэн на прадукцыю сельскай гаспадаркі і прамысловасці, які стрыножыў не толькі калгасы і саўгасы, але і фермерскія гаспадаркі. Зразумела, што выхад з крызісу — не ў разбурэнні эканамічнага патэнцыялу калектыўных гаспадарак, а ў яго ўмацаванні і далейшым развіцці.

Размова працягвалася некалькі гадзін. Яна пакінула шчырыя ўражанні як у супрацоўнікаў, так і гасцей рэдакцыйнага калектыву.



НА ЗДЫМКУ: (злева направа) **І.К.Галко, А.У.Юнцэвіч, М.І.Рубель і У.П.Лысы** ў рэдакцыі.

*Іван АБАБУРКА.*
*Фота Анатоля БАСАВА.*

*(Матэрыялы размовы ў рэдакцыі будуць апублікаваны пазней).*

■ В партиях и движениях

## НЕ РАСКОЛ, А ВОЗРОЖДЕНИЕ

Некоторые средства массовой информации сообщили о расколе в среде левых сил. Газета «7 дней», например, писала: «Факт раскола подтверждает и состоявшийся на днях пленум Минского горкома ПКБ. На нем первый секретарь горкома Емельян Лепешко заявил о сложении своих полномочий и выходе из партии».

Приведенный «факт», мягко говоря, не отвечает истине как по форме, так и по содержанию. О сложении всех полномочий в ПКБ мною, как членом ЦК ПКБ, было заявлено на Пленуме ЦК ПКБ 24.09.94 года. Причиной такого решения явилось то обстоятельство, что я вступал и до конца дней своих останусь членом КПСС, членом ленинской партии рабочего класса. ПКБ считал возродившимся отрядом КПСС в Белоруссии. Однако намеченной заменой партдокументов ЦК ПКБ завершает раскол КПСС, ее растаскивание по национальным квартирам, окончательный разрыв со Всесоюзным коммунистическим движением.

Осознав пагубность такой политики для советского народа, часть членов ЦК и Минского горкома ПКБ, в подавляющем большинстве рабочие, вышли из структур ПКБ, образовали партийную организацию КПСС, приступили к формированию Белорусской территориальной организации КПСС как партии рабочего класса. В основу деятельности положен Устав КПСС и все три Программы КПСС. Рабочие-коммунисты считают, что сложилась уникальная ситуация, позволяющая рабочему классу, как и наметил В.И.Ленин в 1903 году, самоорганизоваться во всесоюзном масштабе в свою пролетарскую партию. Из КПСС добровольно убежали чуждые и враждебные трудящимся элементы. Образовали коммерческо-спекулятивные структуры и буржуазные, ревизионистские, троцкистские партии.

Только рабочие в союзе с крестьянами и всеми трудящимися Страны Советов, самоорганизовавшись в свою партию — КПСС, смогут выполнить волю советского народа, высказанную на Всесоюзном референдуме 17 марта 1991 года. Восстановят единство страны — СССР, Советскую власть как власть трудящихся с выборами всех депутатов в трудовых, воинских, учебных коллективах и правом их отзыва в любое время, социализм со всеми социальными гарантиями, остановят повальное обнищание, братоубийство, наведут порядок в стране.

*Емельян ЛЕПЕШКО.*

ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ
АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

## КАНТРАКТ — НЕ АНТРАКТ

Выканком абласнога Савета дэпутатаў арганізаваў нараду-семінар для намеснікаў старшынь гаррайвыканкомаў па эканоміцы, юрыстаў выканкомаў і групы работнікаў абласных службаў па пытаннях заключэння кантрактаў з кіраўнікамі дзяржаўных прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў. З кароткім уступным словам перад прысутнымі выступіў старшыня аблвыканкома А.І.Цішкевіч.

Рэкамендацыі па ўказанай праблеме давалі спецыялісты Міністэрства працы, Камісіі па працы Вярхоўнага Савета, юрыдычнага ўпраўлення Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Сваім бачаннем сітуацыі падзяліўся генеральны дырэктар канцэрна «Прамысловец» А.І.Мяцельскі.

Семінар прайшоў у форме зацікаўленай дыскусіі і, безумоўна, дапаможа работнікам дзяржаўнага апарату ў іх практычнай рабоце. Прадстаўнікі з месц выказалі нямала цікавых прапаноў па ўдасканаленню механізма заключэння кантрактаў, указалі на прабелы ў заканадаўстве па гэтай праблеме, падкрэсліваючы, што падобных «антрактаў» тут быць не павінна.

Вёў семінар намеснік старшыні абласнога Савета К.К.Хвянько.

■ Рэзананс

## ДАЛІ АДСТАЎКУ МАГАРЫЧАМ

### Пасляслоўе да аднаго артыкула

Водгук на публікацыю ў «Мінскай праўдзе», якая была змешчана ў нумары за 15 верасня г.г. і называлася «Бабулін аброк», быў на дзіва хуткі. У той жа дзень Міхасю Тычыну пазванілі па тэлефоне з калгаса імя Кірава Слуцкага раёна. З таго самага, адкуль бабуля-пенсіянерка ездзіла цягніком у Старыя Дарогі (балазе ёсць паблізу прыпынак) па гарэлку, каб, як яна расказала аўтару артыкула, расплаціцца з камбайнерам за ўборку ячменю на сотках. Мужчынскі голас у трубцы зазначыў, што, маўляў, дарэмна бабуля траціла час і грошы, бо магарычы былі ў модзе летась, а сёлета праўленне дало ім адстаўку.

Як зазначыў старшыня калгаса Валерый Дытчанкоў, у мінулым годзе мелі месца факты, калі сёй-той з камбайнераў у час жніва дазваляў сабе «левыя рэйсы» — для работы на прысядзібных участках. Не сакрэт, што разліковай адзінкай там была бутэлька спіртнога.

— Сёлета ў нас парадак такі, — працягваў старшыня. — Для ўборкі збожжавых на сотках мы выдзелілі спецыяльнага камбайнера, а брыгадзірам параілі на месцах строга сачыць за яго работай. Паслугі па ўборцы ўладальнік збожжавага палетка папярэдне аплачвае ў калгаснай касе па зацверджаных праўленнем расцэнках.

Навёў даведкі ў планавіка-эканаміста гаспадаркі Галіны Пякельнік. Расцэнкі такія: за ўборку адной соткі збожжавых бярэцца 440 рублёў, з дачніка ці не члена калгаса — удвая больш. За работу бульбаўборачнага камбайна (з папярэднім аддзяленнем бацвіння і дастаўкай клубняў у двор) — 600 рублёў за сотку.

Хочацца верыць, што такія захады праўленцаў адаб"юць у аматараў спіртнога ахвоту да «левых» рэйсаў у час уборачнай, дадуць пэўную палёгку перш за ўсё пенсіянерам, якім раней без бутэлькі не варта было і падыходзіць да камбайнера. І тым не менш «магарычная» псіхалогія ў асобных людзей засталася. Чалавеку здаецца, што без паўлітэркі яму ўбяруць збожжа абы-як ці нават затояць крыўду. Не выключана, што і бабуля, якая запаслася бутэлькай «празрыстай» на час жніва (дарэчы, як высветлілася, не калгасніца), жыве з такімі настроямі. Тым больш што ёй пры разліку ў калгаснай касе трэба плаціць за паслугу камбайнераў удвая даражэй, чым калгасніку.

І ўсё ж ініцыятыва праўлення калгаса імя Кірава вартая таго, каб яе перанялі ў іншых гаспадарках. Пара пераходзіць да рыначных узаемаадносін і ў сферы вясковых паслуг.

## ЮБІЛЕЙНЫЯ АГЛЕДЗІНЫ

### Смалявіцкаму прафесійна-тэхнічнаму вучылішчу № 204 — 50 гадоў

На перадавой параненыя салдаты прасілі піць. Строгія штабісты выпісвалі пахаванкі бацькам ці жонкам тых, каго скасілі варожыя кулі, каго ў шматкі разносіла снарадамі. А ў ціхім гарадку Смалявічы дружнай талакой узводзілі дом барачнага тыпу. Хтосьці акорваў бярвёны, хтосьці цягнуў іх на сцяну. Калі цікаўныя пыталіся, што за аб"ект будуецца, рабочыя з гордасцю адказвалі:

— Школа механізацыі.

Гэта было 50 гадоў таму назад, калі, як ужо адзначалася, яшчэ грымела вайна, калі маці, выплакваючы апошнія слёзы, праводзілі на фронт сыноў. Не забыліся смалевічане пра залаты юбілей сваёй навучальнай установы. Гасцей з"ехалася багата. Згадвалі тых, хто першым пачынаў падрыхтоўку кадраў для вёскі. Дарэчы, напачатку ў школе механізацыі працавалі толькі два выкладчыкі.

— Мне тады было 22 гады, а тым, каго я вучыла, — па 28—30. Многія — былыя франтавікі. Але мяне яны паважалі. Вельмі цягнуліся да ведаў, — расказвала на ўрачыстым вечары адна з першых выкладчыц Кацярына Пракопаўна Тоўсцік.

Тады рыхтавалі ў вучылішчы камбайнераў і механікаў.

А сёння Смалявіцкае ПТВ-204 — гэта карпусы, якія адпавядаюць самым сучасным патрабаванням, на палігонах —- 50 трактароў, 5 камбайнаў, 22 аўтамабілі, 79 сельскагаспадарчых машын, тут працуюць 33 выкладчыкі, 40 майстроў вытворчага навучання. Ёсць і такія, хто быў навучэнцам гэтага ПТВ, а потым, атрымаўшы патрэбную адукацыю, пачаў тут працаваць выкладчыкам. Міхаіл Канстанцінавіч Якубовіч — адзін з іх. Пасля заканчэння курсаў трактарыстаў быў прыняты на пасаду майстра вытворчага навучання. Завочна закончыў Гарадоцкі тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі, затым — сённяшні Беларускі аграрна-тэхнічны універсітэт. Некалькі гадоў працаваў дырэктарам прафесійна-тэхнічнага вучылішча. І цяпер бы ім быў, ды здароўе падвяло. Вымушаны быў вярнуцца да выкладчыцкай працы. Яго па праву называюць ветэранам вучылішча: працуе тут з 1956 года. Усяго адзін запіс у працоўнай кніжцы Фёдара Паўлавіча Міранюка. І зроблены ён у верасні 1969 года. Майстар вытворчага навучання пастаянна ўдасканальвае свае веды, тэхнічны і педагагічны ўзровень, ахвотна дапамагае маладым спецыялістам. Да выхаванцаў ставіцца з бацькоўскім клопатам. Кожны ў вучылішчы на сваім месцы. Інакш бы ПТВ не падрыхтавала б за 50 гадоў звыш 56 тысяч механізатараў, каля 10 тысяч аператараў-птушкаводаў. Вельмі многія з іх сталі выдатнымі майстрамі сваёй справы. Трактарыстка Надзея Куніцкая ўдастоена звання Героя Сацыялістычнай Працы. Прафесію жанчына атрымлівала ў Смалявічах. Амаль усе механізатары раёна — былыя выпускнікі ПТВ.

З 1959 года працуе ў вучылішчы Яўген Кузьміч Доўгаль, апошнія шэсць — дырэктарам. На яго долю выпала перабудова, але мудры кіраўнік не кінуўся ламаць старое. Вёў і вядзе калектыў выбраным шляхам, што і прыносіць добры плён: павышаецца якасць навучання. Ці ж не аб гэтым гаворыць той факт, што толькі за апошні час у Смалявіцкім ПТВ-204 праведзены тры абласныя семінары па арганізацыі выкладання спецыяльных прадметаў, два абласныя конкурсы аратых, абласныя конкурсы аўтамабілістаў і аператараў машыннага даення, абласны семінар выхавальнікаў інтэрнатаў.

— Ва ўсіх конкурсах прымалі ўдзел і выхаванцы нашага вучылішча. І ганаруся, што займалі прызавыя месцы. Правядзенне такіх мерапрыемстваў дапамагае вызначыць рубеж у авалоданні прафесійным майстэрствам, да якога павінен імкнуцца і той, хто вучыцца, і той, хто вучыць, — зазначыў дырэктар.

Якія ж спецыяльнасці цяпер набываюць юнакі і дзяўчаты ў вучылішчы? Трактарыста-машыніста шырокага профілю, слесара-рамонтніка, вадзіцеля аўтамабіля, аператара-птушкавода, лабаранта хіміка-бактэрыялагічнага аналізу, прадаўца прадуктовых і непрадуктовых тавараў, повараў-кандытараў. З"явілася і новая спецыяльнасць — гаспадыня фермерскай сядзібы. На некаторыя спецыяльнасці прыём на конкурснай аснове. Адным словам, адышоў у мінулае той час, калі школьныя настаўнікі палохалі нядбайных вучняў: «Не будзеш лепш вучыцца — пойдзеш у ПТВ».

Калектыў вучылішча з залатым юбілеем павіншаваў начальнік упраўлення адукацыі аблвыканкома А.С.Новік. Ад імя Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь ён уручыў лепшым выкладчыкам значкі «Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь».

На ўрачыстым вечары выступілі загадчык аддзела народнай адукацыі Смалявіцкага райвыканкома В.І.Герасімчык, старшыня Смалявіцкага райвыканкома А.А.Кузняцоў і інш.

*Уладзімір КОБРЫН.*



Жизнь как она есть

### Глас божий

Мужчина проснулся среди ночи. От крика и какой-то возни на улице. Выглянул на балкон. Трое неизвестных возились возле четвертого. Вернее, перебрасывали его друг другу. Тот матерился, но не сдавался, осыпая обидчиков новой порцией слов, которых нигде в словаре не найдешь. Что делать? Выйти и помочь пострадавшему? Реально взвесив свои силы, мужчина не рискнул и вдруг вспомнил наставление своего богобоязненного товарища: в любой опасной ситуации протяни руку вперед и произнеси магические слова. Что он и сделал. Набрал воздуха в легкие и зычно произнес вещие слова: «Мир, покой, любовь!..» Мужчины вздрогнули и враз остановились, испуганно озираясь кругом. А так как ночь была темная, редкие уличные фонари не освещали дом, то произнесенные слова, казалось, исходили с неба. Испуганно втянув головы в плечи, они подошли к пострадавшему:

— Прости, мужик, погорячились. Ты и сам виноват, зачем лезть в амбицию? Ну, мир?

И побрели восвояси.

— Получилось, получилось... — завопил мужчина, возвратившись в комнату, исполняя ритуальный танец индейцев. С постели испуганно глядели на него жена и сынишка.

### Чучело-пугало

Вор, открыв отмычкой дверь, оказался из слабонервных. Только он проскользнул в чужую квартиру, как увидел в темной прихожей труп. Свесив голову, в петле болтался мужчина. Не каждый может выдержать такое зрелище. И наш незадачливый грабитель грохнулся в обморок. Пришел он в себя на постели. Над ним заботливо склонился мужчина, держа в руках ватку с нашатырем. «Что, полегчало?», — елейным голосом произнес он. Вор вскочил, сунул руку в карман, где лежали орудия взлома и нападения, и ничего не обнаружил. Хозяин довольно рассмеялся: «В целях безопасности я их изъял».

— А где же труп? — заплетающимся языком произнес горе-взломщик.

— Он здесь, — хозяин внес чучело. — Немного поврежден при вашем падении, но это дело поправимое. Так как я бизнесмен, в какой-то мере ваш собрат, то и разговор будет деловой. На восстановление шедевра — пугала для устрашения воров — предлагаю в добровольном порядке пожертвовать тысячу долларов.

Вор обреченно махнул головой в знак согласия.

### Кто кого?

В продовольственном магазине старушка испуганно таращится на цены в рыбном отделе. А они и вправду испугают кого угодно. Рыбные деликатесы заросли такими астрономическими «полипами». А в руке у бабульки только «зайчики» да «белочки». Трусливое семейство, которое обесценилось до такой степени, что и спички за них не купишь.

Молодой парень, зубоскаливший с продавщицей, презрительно вперил око в старушку:

— Наковыряй, милая, — (продавщице), — этой старушенции грамм сто рыбьих глаз. Я заплачу.

Продавщица подобострастно засмеялась, с готовностью протянув руку к рыбе.

— Спасибо, милок, — произнесла бабулька, — куда уж мне рыбьи глаза! У меня и зубов-то нет. А вот тебе я кое-что подарю.

И, вынув из сумочки пустые молочные бутылки, поставила их перед молодцом.

— В скором времени они тебе понадобятся. Прибереги на черный день.

И с достоинством отошла от опешившего парня.

*Ирина АНДРЕЕВА.*



### АД ПРЭЗІДЫУМА АБЛАСНОГА САВЕТА ДЭПУТАТАЎ

**Прэзідыум абласнога Савета дэпутатаў з глыбокім жалем паведамляе, што 7 кастрычніка 1994 года пасля цяжкай хваробы памёр дэпутат абласнога Савета Уладзімір Сямёнавіч ЦАРЫКАЎ.**

■ Ідэя, пошук, прадпрымальніцтва

# "Шахцёр" і "Калі ласка"

НІКОЛІ не падумаў бы, што ў стотысячным Салігорску — чатыры сотні розных гандлёвых кропак. Адных ларкоў звыш сотні: 85 — прыватныя, 33 — дзяржаўныя. Сярод магазінаў прапорцыя іншая: 60 — дзяржаўныя, і толькі 12 — прыватныя.

Пры такім багатым гандлёвым спектры цяжка ўтрымацца ад параўнанняў. Асабліва калі аб рабоце дзяржаўных і камерцыйных прадпрыемстваў сёння гавораць самае рознае. Падабраць два раўназначныя магазіны з аднолькавым профілем я не змог нават пры такім багатым "асартыменце". Таму спыніўся на вядомым у горадзе дзяржаўным "Шахцёры" і камерцыйным "Калі ласка".

**КАРОТКАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА:**

**"Шахцёр"**. Спецыялізуецца на электратаварах. 16 работнікаў, 440 квадратных метраў гандлёвай плошчы. Выручка за апошні месяц — 55 мільёнаў рублёў. Заработак прадаўца з прэміяй — 68 тысяч.

**"Калі ласка". "Усёедны"**: гандлюе тэлевізарамі і шакаладам, абуткам і посудам. 10 работнікаў, 302 квадратныя метры рабочай плошчы. Месячная выручка — 86 мільёнаў рублёў. Заработак прадаўца з прэміяльнымі — 95 тысяч.

Падлікі з гэтымі лічбамі зрабіць няцяжка. Як і нейкія вывады. Толькі лічбы далёка не аб усім гавораць. Таму вельмі цікава паслухаць, як ацэньваюць становішча самі кіраўнікі магазінаў.

## «Не жадаем служыць прыватніку! —

заяўляе намеснік дырэктара "Шахцёра" Л.М.Прахарэнка. — Гэта пазіцыя не адміністрацыі, а ўсяго калектыву магазіна. Аб прыватніку загаварыла не выпадкова. Вясной наш магазін быў уключаны ў спіс аб'ектаў гарадской камунальнай уласнасці, якія падлягалі прыватызацыі. Засталіся мы дзяржаўным прадпрыемствам толькі таму, што загадзя не былі выкананы некаторыя неабходныя фармальнасці. Цяпер усё пачынаецца па новому кругу. І мы са страхам думаем, аб тым, што да нас у любы момант можа прыйсці "нехта" і заявіць: "З сённяшняга дня вы і магазін — мае".

Чаму са страхам? Па-першае, ёсць трывога за сваю будучыню, за работу. Не без падстаў. Арандавала ў нас частку памяшкання фірма "Гектар". Праз тры месяцы пасля "адкрыцця дзвярэй" яна абанкруцілася, камерсанты прагарэлі. Куды прадаўцоў? Хутчэй за ўсё — на вуліцу. І ў прыватызаваных магазінах такое не рэдкасць. Там, расказваюць, далёка не цукар. Нам жа банкруцтва сёння не пагражае.

Па-другое, амаль усе нашы пакупнікі таксама супраць прыватызацыі магазіна. Бо заводы праз нас гарантуюць якасць сваёй прадукцыі. Вось пасрэднік прапанаваў нам даволі буйную партыю кавамолак з Украіны. Мы адмовіліся ад выгаднага тавару толькі таму, што не мелі гарантыі на яго якасць. А як павёў бы сябе ў такой сітуацыі чалавек, што набыў магазін? На якасць тавараў, якія купляюцца ў суседнім, прыватным "Масісе", чуецца і пішацца нямала скаргаў, але станоўчых зрухаў не відаць. "Куплены тавар назад не прымаем", — такое папярэджанне ў камерцыйным магазіне не рэдкасць. Мы са сваімі пакупнікамі так не робім. Калі, напрыклад, па гарантыі рамантавалі ў Санкт-Пецярбургу пыласос, набыты ў нас, то папрасілі знаёмых, каб даставілі яго ў Салігорск, але чалавека не падвялі. Не заплямілі марку магазіна.

І памыляецца той, хто думае, што ў дзяржаўным магазіне прадаўцы толькі стаяць ды час бавяць у чаканні зарплаты. У нас жа таксама: менш тавару рэалізуеш — менш заробіш. Таму і круцімся. Да мінімуму скарацілі штаты. Прадаўцы не толькі кансультуюць пакупнікоў, паказваюць тэхнічныя характарыстыкі тавараў, а і вывучаюць попыт на іх. Што абавязкова ўлічваецца пры заключэнні дагавораў з заводамі, фабрыкамі. Імкнёмся абыходзіцца без пасрэднікаў: танней. Сочым за цэнамі на рынку, робім гандлёвую нацэнку такую, каб тавар наш быў не даражэйшы, чым у іншых магазінах. У асноўным бяром беларускую тэхніку: з гарантыйнымі абавязацельствамі прасцей, на транспарт выдаткі меншыя.

Так што рыначныя адносіны вымушаюць і нас перабудоўваць сваю работу. І каб зрабіць яе яшчэ больш эфектыўнай, нам зусім не патрэбен наглядчык з пугай. Самі здолеем. Бо гаспадарамі магазіна сябе адчуваем".

## «Галоўнае — ступень свабоды калектыву, —

перакананы кіраўнік магазіна "Калі ласка" Р.Р.Бараноўскі. — Мы пастараліся арганізаваць справу так, каб максімальна не залежаць ад знешніх умоў. Арандуем памяшканне, за якое ў месяц плацім больш за мільён рублёў. Набылі два грузавікі. Заключылі дагаворы з Керчанскім металургічным камбінатам на пастаўку эмаліраванага посуду, з філіялам завода "Віцязь", які тэлевізары вырабляе, з беларускімі абутнікамі. Самі дастаўляем тавар, самі прадаём, самі прыбытак размяркоўваем. Пасля таго як з дзяржавай, пастаўшчыкамі разлічымся. Акрамя прэміяльных працэнтаў без лішніх праблем даплачваем тым, хто праявіў ініцыятыву, старannасць. Тут перад дзяржаўнымі магазінамі ў нас пэўная перавага.

Гандлёвую нацэнку ўстанаўліваем ад 10 да 30 працэнтаў. У залежнасці ад попыту на тавар. Таму нярэдка тыя ж жаночыя туфлі ў нас таннейшыя, чым у дзяржаўным гандлі. Закупляем сыравіну за межамі Беларусі, пастаўляем яе на абутковую фабрыку "Чырвоны Кастрычнік" ці на "Белвест". За кошт чаго таксама маем магчымасць гандлёвую нацэнку знізіць. Не рэалізуем партыю абутку? Не бяда. Тут жа шукаем, дзе яе можна абмяняць на прадукцыю, якая больш патрэбна салігорцам.

Я цвёрда перакананы, што асартымент, цэны, культура абслугоўвання, увогуле эфектыўнасць работы магазіна не залежаць ад таго, чый ён — дзяржаўны, прыватны ці калектыўны. Галоўнае тут — свой рахунак у банку, ініцыятыва, пошук. Вельмі важна, каб былі добрыя ўзаемаадносіны ў калектыве, нацэленасць на канчатковы вынік, уменне хутка арыентавацца ў рыначнай сітуацыі. У камерцыю падаліся больш маладыя, энергічныя, адукаваныя. Таму і справы тут ідуць лепш. Нярэдка гутарыш з работнікамі дзяржаўных магазінаў — і дзівішся, як адстаюць яны ад нашага часу! Не ведаюць попыту і прапанавання, аперыруюць катэгорыямі дзесяцігадовай даўнасці. Разлічваць на поспех ім, вядома, цяжка.

Нарэшце, аб прыбытках. У некаторых склалася ўяўленне, што работнікі камерцыйных магазінаў на мяшках з грашыма сядзяць. Вядома, ж, не. Мы грошы адразу ў абарот пускаем. Часта з-за недахопу сродкаў вымушаны ў банку крэдыты браць. Заказалі халадзільнікі, абсталяванне, каб тавар наш заўсёды быў высакаякасны, а зала — утульная, сучасная. Трэба было б склады, гаражы пабудаваць, ды ўсё ніяк з сіламі не збяромся. Да таго ж, да нас даволі часта звяртаюцца людзі з просьбай дапамагчы. І мы імкнёмся не адмовіць. Толькі ў апошнім месяцы выдзелілі даволі буйныя сумы мясцоваму паэту на выданне зборніка і хвораму — на лячэнне за мяжой. Раней пералічвалі грошы і дзіцячаму дому, і пажарным. І не імкнёмся мы атрымліваць даход любымі сродкамі. Неяк завезлі партыю таннага, але даволі выгаднага віна. Што ў магазіне, вакол яго рабілася! Больш не павезлі — не трэба нам вялікі прыбытак, калі ён кагосьці здароўя пазбаўляе, нясе непрыемнасці іншым."

## "Гандаль — таксама навука", —

лічыць аўтар.

Каму даводзілася бываць за мяжой, той не мог не звярнуць увагі на культуру абслугоўвання, ветлівасць, усмешкі прадаўцоў. Звернутыя да пакупнікоў спіны нашых работнікаў гандлю, іх абыякавасць, а часта і грубасць мы спісвалі на сістэму. Маўляў, дзяржаўная, чалавек у ёй не гаспадар, а шрубка нейкая.

Але і ў дзесятках салігорскіх прыватных магазінаў, у ларках еўрапейскай культуры штосьці не відаць. У тым жа "Калі ласка" гэтыя словы пачуеш не часта, рэдка ўбачыш усмешку прадаўца. Няхай і штучную, фармальную, але прыемную для пакупніка. Што ж, гандаль — таксама навука, каб спасцігнуць яе, не адзін год патрэбен.

Але бог з ёю, з усмешкай. Сёння нам паболей бы тавараў ды патанней. Нават з невялікага аналізу работы двух магазінаў ясна, што камерцыйны пакідае лепшае ўражанне. У ім большая выручка на аднаго работніка, а калі ўлічыць, што на "Шахцёр" працуюць бухгалтары, таваразнаўцы, вадзіцелі гарадскога гандлёвага прадпрыемства, у склад якога ён уваходзіць, дык розніца гэтая акажацца яшчэ больш адчувальная. "Калі ласка" лепш аплачвае працу сваіх работнікаў, больш аператыўна рэагуе на патрабаванні, прапановы рынку.

І ўсё ж кардынальных вывадаў рабіць не варта. Тым больш — прымаць рашучыя меры накшталт неадкладнай "камерцыялізацыі" ўсіх гандлёвых кропак ці слепа капіраваць заходнія метады работы: у нас свае нацыянальныя традыцыі, асаблівасці. Няхай працэс адбору найбольш эфектыўных форм гандлю ідзе павольна. Жыццё абавязкова расставіць усё па сваіх месцах: передавому, сучаснаму надасць дадатковыя сілы, а аджыўшае банкрутам зробіць.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*
*г. Салігорск.*

■ АПК і рынак

# РАСКІДВАЦЦА НЕ МАЕМ ПРАВА

## самым галоўным багаццем селяніна

У свой час прыхільнікі фермерства сцвярджалі: міне два-тры гады, і новыя, свабодныя гаспадары забяспечаць насельніцтва разнастайнай сельскагаспадарчай прадукцыяй.

Іх надзеі не спраўдзіліся. І гэта добра відаць на прыкладзе сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак Пухавіцкага раёна.

Зараз у раёне 42 такія гаспадаркі. (На «падыходзе» яшчэ 5). У іх распараджэнні 627 гектараў зямлі. Летась фермеры рэалізавалі дзяржаве 180 тон збожжа, 45 — агародніны, 10 — малака, 20 тон мяса і 15 цэнтнераў ільноваалакна... Гэта мізэр у агульным аб'ёме рэалізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі, якую звычайна пастаўляе раён. Сёлета зрухаў не прадбачыцца. Дык што, ісці на суцэльную «фермерызацыю» і передачу зямлі ў прыватныя рукі?

Наконт гэтага сваё меркаванне выказаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка вядучаму праграмы «Момант ісціны» Андрэю Каравулаву, падкрэсліўшы, што нам не патрэбны такія фермеры, якія атрымліваюць па 9 цэнтнераў збожжа з гектара. Безумоўна, асабіста для фермера такой ураджайнасці хопіць, каб пракарміць сям'ю. Але ж зямля — агульнанароднае багацце, і яна павінна працаваць для ўсіх. Значыць, і фермеры нясуць пэўную адказнасць за забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання. Таму наспеў час на поўны голас весці размову аб эфектыўнасці работы сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак. Тым больш што яны маюць дзяржаўную падтрымку, крэдыты, карыстаюцца пэўнымі льготамі на першым часе станаўлення. Словам, павінна быць і належная аддача.

Але аб чым можна весці размову, калі зямля не тое што дрэнна апрацоўваецца, а ўвогуле пустуе. Прыклад? Калі ласка. Фермер Сяргей Рэут сёлета нават не пачынаў апрацоўку 15 гектараў зямлі. Яго «падтрымалі» Ганна Рэпічава, Мікалай Баёк, Сяргей Вальkevіч. Трэць зямлі пустуе ў фермера Уладзіміра Кудзелкіна. Частка поля «адпачывае» ў Іонаса Купрыявічуса. Іх зямля стала расаднікам пустазелля. У некаторых фермераў яно заглушыла пасевы. Гэта датычыць Сяргея Лазавога, Уладзіміра Варфаламеева. Яны не апрацоўвалі міжрадкоўі пасеваў, не вялі хімічную барацьбу з дзікай раслiннасцю.

Безумоўна, ёсць і станоўчыя прыклады. Штогод паказваюць належную культуру земляробства фермеры Міхаіл Шабан, Міхаіл Парфёненка, Валерый Доўнар, Валерый Люнічаў, Аляксандр Свірыдаў.

Праўда, што датычыць апошняга, дык ён выбраў экстэнсіўны шлях гаспадарання: бярэ ад зямлі ўсё, не клапоцячыся аб павышэнні яе ўрадлівасці. Спачатку так «гаспадарыў» у калгасе «Зорка». Цяпер працягвае гэта рабіць і на новым участку, дарэчы, як і іншыя фермеры. Дарагоўля мінеральных угнаенняў, адсутнасць арганікі, ігнараванне іншых мерапрыемстваў — усё гэта вядзе да вынасу з глебы гумусу, збяднення мінеральнага сілкавання раслін. Прыцягнуць жа да адказнасці вінаватага за варварскія адносіны да зямлі няма ніякай магчымасці: Вярхоўны Савет рэспублікі выдаў у спешцы «на-гара» недапрацаваны Закон аб сялянскіх (фермерскіх) гаспадарках, Кодэкс аб зямлі. Таму наспеў час пераглядзець некаторыя артыкулы і палажэнні гэтых дакументаў. Тэрмінова трэба правесці і аграхімічнае абследаванне глебы ў надзелах фермерскіх гаспадарак, каб параўнаць калгасную і фермерскую культуру земляробства.

Вядома: каб эфектыўна гаспадарыць на зямлі, атрымліваць добрыя ўраджаі і высокія прыбыткі, фермеру неабходны спецыяльныя веды па аграноміі, заатэхніі, ветэрынарыі, эканоміцы. Бо большасць з іх працуюць па-дзедаўску. Той жа Сяргей Лазавой на пясчана-гравійным участку мяркуе пасадзіць пладовыя дрэвы і ягаднікі. А вось ці будзе там сад — хто яго ведае. І многія фермеры таксама на раздарожжы. Канкрэтнай жа дапамогі з боку раённага аб'яднання сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак «Спадчына» няма. Відаць, трэба тэрмінова падключаць да работы спецыялістаў упраўлення сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання, калгасаў і саўгасаў, якія змогуць даць навукова абгрунтаванае заключэнне наконт таго, што мэтазгодна вырошчваць на тым ці іншым участку зямлі. Тады можна будзе ўкараняць і спецыялізацыю фермерскіх гаспадарак. Словам, час дыктуе: каб стаць сапраўдным гаспадаром на зямлі, трэба ўсё дасканала ведаць.

Не набывае ў фермераў раёна належнага распаўсюджвання і жывёлагадоўля. У іх гаспадарках зараз толькі 79 галоў буйной рагатай жывёлы, у тым ліку 49 кароў, 127 свіней, крыху больш як 800 галоў птушкі. Грунтоўна заняўся гэтай галіной сельскагаспадарчай вытворчасці фермер Міхаіл Парфёненка — ён пабудаваў ферму на 50 галоў буйной рагатай жывёлы. Разам з тым 16 фермераў не трымаюць буйной рагатай жывёлы і свіней, 11 — наогул не маюць на падворку ніякай жыўнасці. А жывёлагадоўля — гэта ж не толькі малако і мяса, але і арганічныя ўгнаенні, без якіх на нашай зямлі — ні кроку.

Кожны фермер, перш чым атрымаць надзел, прадстаўляў сваю праграму дзейнасці па вытворчасці прадукцыі. У некаторых яна была для блізіру. Дастаткова сказаць, што 9 фермераў у асноўным займаюцца камерцыяй, а не сваёй гаспадаркай. Іх выручка ад пабочнай дзейнасці складае 90 працэнтаў ад агульнага грашовага абароту, а сельскагаспадарчая вытворчасць з'яўляецца толькі прыкрыццём для куплі-продажу.

Характэрны прыклад — дзейнасць фермера Івана Уласевіча. Яму выдзелена 12 гектараў зямлі. Але даход ад яе складае ўсяго толькі 2 працэнты. Ён — тыповы камерсант, а не гаспадар на зямлі. І паўстае пытанне: а ці патрэбна яна яму? Як ён выкарыстоўвае крэдыты, на якія мэты?..

Пытанні, пытанні... У фермераў, як і ў калгасаў, саўгасаў, іх шмат. Гіперінфляцыя, дарагоўля, абвал эканомікі ўжо сёлета загналі некаторых з іх у даўгавую яму, на мяжу банкруцтва. Як выжыць, што рабіць? Безумоўна, фермерству патрэбна дзяржаўная дапамога-падтрымка. Пакуль што яна недастатковая. Таму развіццё гэтага сектара АПК ставіць на парадак дня два важныя пытанні. Першае — як дапамагчы фермеру? Другое — неабходна патрабаваць ад яго, каб зямля працавала і не спустошвалася, бо яна, зямля, — багацце агульнанароднае, раскідвацца якім ніхто не мае права, нават калі атрымаў ва ўласнасць.

*Мікола ГРЫГАРОВІЧ.*

# У ЦЕСНАЦЕ, АЛЕ НЕ Ў КРЫЎДЗЕ

Пасля рамонту адчыніў свае дзверы дзіцячы сад саўгаса «Рассвет» Мінскага раёна. Памятаецца, яшчэ не так даўно выхавальнікі скардзіліся на дрэнныя ўмовы працы. Сёння ж становішча змянілася ў лепшы бок. У гэтым мелі магчымасць пераканацца і мы, наведаўшы садок у першы дзень сустрэчы з малышамі.

— Ёсць, вядома, недаробкі і пасля рамонту, але ж гэта дробязі, — гаворыць загадчыца дзіцячай установы Алена Іосіфаўна Каско. — У рабочым парадку іх і самі ліквідуем. Галоўнае, што сёння ў нас няма прэтэнзій да кіраўніцтва саўгаса. Без іх падтрымкі было б цяжка нешта зрабіць.

Потым Алена Іосіфаўна паказала нам утульныя пакойчыкі. Яны, праўда, невялічкія, але ж, як кажуць, у цеснаце, ды не ў крыўдзе. А як прыгожа размаляваны сцены! Тут бы і мастак-прафесіянал залюбаваўся. Гэта сёстры Вольга і Света Салдаткіны пастараліся. Дзяўчаты вучацца ў педагагічным вучылішчы, а ў садзіку працуюць памочнікамі выхавальніка.

У час рамонту была ўстаноўлена мэбля ў спальным пакоі. Паўгода назад яе набылі за мільён рублёў. Зараз тут стала намнога зручней. Ды і дзецям вельмі падабаюцца новенькія ложкі, якія пасля сну можна сабраць.

Для выхавальніцы першай катэгорыі Наталлі Першуковай усе дзеткі роўныя. Яна іх любіць аднолькава. Як зазначыла загадчыца А.І.Каско, Наталля працуе тут пяць гадоў. Зарэкамендавала сябе з самага лепшага боку. Дзяўчына можа з густам аформіць інтэр"ер, цікава праводзіць заняткі, робіць шмат наглядных дапаможнікаў.

— Сюды прыйшла па размеркаванню пасля заканчэння педагагічнага вучылішча, — зазначае Наталля.

— Чаму выбрала менавіта гэтую прафесію?

— Па-першае, я вельмі люблю маленькіх дзетак. А яшчэ мая бабулька таксама раней працавала выхавальніцай. Гэта ў нейкай ступені і вызначыла выбар.

— Каша смачная? — цікавімся ў малышоў.

— Смачная! — пачулі ў адказ.

— На сённяшні дзень у садзіку цеснавата, — згадваецца дырэктар саўгаса «Рассвет» А.С.Гелейша. — Справа ў тым, што вёска Новы Двор была пад пагрозай зносу. Таму і не сталі ўзводзіць новы, хаця ён нам вельмі неабходны. Цяпер жа гэта зрабіць даволі цяжка.

*Юрый ЛОЙКА.*

НА ЗДЫМКАХ: выхавальніца Наталля **Першукова** ўкладвае дзяцей адпачываць; трайняты Ігар, Вольга і Аляксандр **Швайбовічы;** маленькая гаспадыня Аня **Астроўская.**

*Фота Аляксандра РУЖЭЧКІ.*

■ ФОТАРЭПАРТАЖ

# АЗЁРЫ ДАБРЫНІ І ПЕСЕНЬ

## Штрыхі да партрэта жаночага вакальнага ансамбля ветэранаў вайны і працы "Сябры песні" Смалявіцкага ГДК

На сцэну паднялася невысокая жанчына, пастаяла хвіліну, а потым чыстым голасам узяла звонкую ноту:

— Якая песня без баяна...

Шчыра і пяшчотна гучала песня. Яна даходзіла да самых "засакрэчаных" сардэчных таямніц слухачоў, якія сваімі дружнымі апладысментамі прасілі новых песень. І Аксана Яфімаўна Купрэенкава іх выконвала.

Гэта ў яе ад нараджэння — і голас, і адданасць песні, і прага падзяліцца сваім талентам з людзьмі. А дзеліцца ім Аксана Яфімаўна вельмі даўно. Звычайна не прынята згадваць узрост жанчыны, але няхай прабачыць мне Купрэенкава...

Нарадзілася яна на Віцебшчыне, у сялянскай сям"і. У 1940 годзе закончыла педагагічныя курсы пры Аршанскім настаўніцкім інстытуце. Атрымала накіраванне на працу ў адзін з раёнаў Піншчыны. Там Аксану Яфімаўну застала Вялікая Айчынная вайна. Пад свістам варожых куль, пад бамбёжкамі адыходзіла ў глыбіню Расіі. Апынулася на Саратаўшчыне. Там закончыла курсы радыстак-шыфравальшчыц, пасля чаго была выклікана ў штаб партызанскага руху, дзе папрасілася накіраваць яе ў тыл ворага. Не адмовілі.

"А як жа песня?" — спытае чытач. Адкажу ахвотна. У 1989 годзе ў Мінску праходзіў злёт радыстаў, якія ў гады Вялікай Айчыннай вайны былі закінуты за лінію фронту. І першае, што пачула былая радыстка, уваходзячы тады ў залу: "Аксана, запявай!"

Народныя мсціўцы добра памятаюць той час, калі чысты, крынічны голас Купрэенкавай саграваў іх у стылых зямлянках, у нялёгкіх рэйдах па тылах праціўніка, рэдкіх прывалах. Саграваў і тады, калі закончылася вайна. Дарэчы, яе прынялі ў ансамбль песні і танца, які быў створаны ў Ашмянах. Затым пераехала ў Маладзечна, дзе закончыла настаўніцкі інстытут. Да пенсіі абранай прафесіі не здрадзіла, хаця прапаноўвалі больш ціхія і больш хлебныя пасады. А з песняй і сёння не развітваецца. Яе працоўны стаж у мастацкай самадзейнасці пачаў адлічваць шосты дзесятак гадоў. І да кожнай песні ставіцца патрабавальна. Мы добра ўяўляем, колькі Аксане Яфімаўне даводзіцца папрацаваць, паразважаць, перахваляваца, пакуль асмеліцца ўпершыню выйсці да гледачоў з новай песняй. Увогуле, яна любіць песні ваенных гадоў і вельмі хораша іх выконвае.

— Выходзіць на сцэну можна толькі тады, калі ведаеш, што ты хочаш сваёй песняй сказаць людзям. Тут трэба быць шчырым, бо чым больш строга ставішся да сваёй творчасці, тым лепш будзе адточана выканаўчае майстэрства, — зазначае спявачка.

З ёю нельга не пагадзіцца. Песня для ветэрана вайны і працы — гэта адзін са сродкаў самавыяўлення, калі індывідуальнасць выканаўцы скіравана на тое, каб песню падхапілі людзі, панеслі яе ў свае кватэры, на плошчы, ва ўстановы культуры.

Першая рэпетыцыя ўдзельнікаў ансамбля адбылася восем гадоў назад. З таго часу дадзена больш за 200 канцэртаў.

Нават самыя неймаверныя нягоды не выветрылі з іх памяці таварыскасці, жадання спяшацца на дапамогу іншым, дзяліцца апошнім.

Здарылася так, што ва ўдзельніцы ансамбля Вольгі Анісімаўны Пятровіч згарэла хата, а яе гаспадыня трапіла ў бальніцу. Яе кожны дзень наведвалі спявачкі, сабралі для пагарэліцы грошы. Няхай і не надта ўжо вялікая сума, але галоўнае тут —увага да чалавека, адчуванне таго, што цябе памятаюць. Аб гэтым я нярэдка згадваю, калі Аксана Яфімаўна выконвае песню Уладзіміра Карызны "Азёры дабрыні". Шмат гэтай дабрыні ў сэрцах маіх спявачак.

На сотнях моў вымаўлялася прозвішча ўдзельніцы ансамбля Таццяны Іосіфаўны Кошаль. Спытаеце, з якой нагоды? Гэта ж яна выхавала дачку, слынную гімнастку Антаніну, якая стала алімпійскай чэмпіёнкай.

Калі ў дзяўчыны-спартсменкі пыталі, адкуль у яе такая зайздросная працавітасць, адказвала з гордасцю: "Ад мамы..." На ўсё хапала часу ў Кошаль-старэйшай: і дачку выхоўваць, і самой не адрывацца ад грамадскага жыцця. У Смалявіцкім раёне яе добра ведаюць як аўтара частушак — шчырых, дасціпных, калючых. Заспявае — у кагосьці душа лагаднее, а кагосьці дрыжыкі працінаюць ад боязі, што па ягоных штукарствах спявачка "праедзецца" калючым, вострым словам. Такое, дарэчы, было не раз. А колькі душы Таццяна Іосіфаўна ўкладвае ў выкананне народных песень! На заключным канцэрце агляду-конкурсу мастацкай самадзейнасці раённых і гарадскіх дамоў культуры Міншчыны за выкананне песні "Пры даліне куст каліны" Т.І.Кошаль прызнана адной з лепшых спявачак вобласці.

Апаленае вайной юнацтва і ў Юльяны Дзмітрыеўны Сцяпанавай. Франтавічка. Служыла ў авіяцыйных часцях. А паміж баямі, вылетамі пісала вершы. Гэтае захапленне не пакідае жанчыну і ў нашы дні. Кожная з спявачак заслугоўвае асобнага артыкула. І Н.А.Яскевіч, і В.В.Лапуцька, і М.Ф.Казлова, і Г.У.Мельнічэнка... Хіба ж змаглі б мы атрымаць столькі ганаровых дыпломаў і грамат, каб не актыўная дзейнасць, талент М.А.Журко, Г.К.Яскевіч, Н.А.Пацкевіч, В.В.Асташонак, Н.А.Лапо, С.А.Клімовіч, К.П.Латушка, М.А.Кручынкіна, З.М.Разумовіч...

У нашым рэпертуары больш за 50 песень. А выступалі мы ў многіх вёсках Смалявіцкага раёна, у Беразіно, Барысаве, Дзяржынску, Мінску, Бараўлянах. Вобразна кажучы, "Сябры песні" заўсёды ў дарозе.

*Іван ГОЦМАН, дырэктар Смалявіцкага гарадскога Дома культуры, мастацкі кіраўнік ансамбля ветэранаў вайны і працы "Сябры песні".*

■ Незабыўнае

# НА ГРАНІЦЫ БЕЗ ХМАРАЎ БЫЛО ХМУРНА

Заходняя граніца нашай былой дзяржавы — СССР у перадваенны час была авеяна вялікаю павагаю і легендамі. Так і гаварылі: "Граніца на замку". І сапраўды, усякія зносіны людзей на памежжы дзяржаў былі строга забаронены.

Трэба сказаць, што ў той час не толькі сама граніца, але і так званая "прыгранічная зона", звычайна адлегласцю вёрст 15—20, была вельмі неспакойная. Сюды забаранялася наведвацца людзям з іншых месц без спецыяльнай візы-дазволу. У прыгранічнай зоне быў асобы рэжым пражывання.

Справа ў тым, што суседняя дзяржава на Захадзе — "панская Польшча" лічылася для нас "міжнародным плацдармам імперыялізму", які, як тады казалі, заўсёды хоча нас знішчыць. Варожасць паміж дзяржавамі насіла як эканамічны, палітычны, так і ідэалагічна-рэлігійны характар.

Наша невялікая вёска Бабалі (цяпер — Навасады), што на Уздзеншчыне, знаходзілася ў маляўнічай мясцовасці каля самай граніцы. Побач лес і поле. А на захадзе поплаў, рэчкі Лоша і Нёман. Па Нёмане граніца... Там Польшча. Я яшчэ ў школу не хадзіў, а ўмеў чытаць. І мог сам "прабэкаць" строгія аб"явы на сценах: за пераход граніцы або непаведамленне аб рыхтуемым пераходзе — расстрэл! Каля студні была аб"ява-заклік: "Будзь пільны, цябе падслухоўвае вораг!". Здавалася, што ўсюды хаваюцца шпіёны: у лесе, у кустах, у разорах, на дрэвах. У вёсцы было наладжана дзяжурства жыхароў. Ночу дзяжурны павінен быў хадзіць па вуліцы з трашчалкаю ці іншай прыладай, якая магла гучаць. Шмат было выпадкаў, калі рабіліся засады, аблавы на шпіёнаў. Мне вельмі хацелася паглядзець на "жывога шпіёна". І калі дзе што — я бег туды. Некалькі разоў з апаскаю падыходзіў да граніцы, каб паглядзець на той бок, дзе жывуць "ворагі" і "хітрыя шпіёны". Мяне, як і ўсіх жыхароў, пагранічнікі ведалі. А аднойчы ўсё ж затрымалі, калі бег па беразе рэчкі, прывялі дамоў і выгаварылі бацьку.

Пра тую трывожную абстаноўку сведчыць і такі факт. У 1937 годзе летам уначы было паўночнае ззянне. З поўначы да самага зеніта падымаліся, як пражэктары, рознакаляровыя палосы. Яны хутка мяняліся, узнікалі вясёлкавыя "палотнішчы"... А назаўтра нам аб"явілі, што гэта былі "шпіёнскія сігналы".

Аднойчы я ішоў каля лесу з Альбінам Зяньковічам. Я вельмі любіў і шкадаваў яго таму, што ён умеў хораша іграць на кларнеце, хаця быў без левай рукі. Убаку стаяў на варце чалавек з ружжом. Мусіць, мы здаліся падазронымі, бо раптам ён закрычаў: "Стой! Рукі ўгару!" Альбін, канешне, мог падняць толькі адну руку. Вартавы выстраліў у паветра і зноў закрычаў: "Чаму адну падняў?!" Нас адвялі для высвятлення абставін на заставу...

Трывожныя і цяжкія былі 30-я гады. Мы адчувалі гэта асабліва, бо ў нашай мясцовасці ў асноўным жылі каталікі-шляхта, якія быццам бы спачувалі палякам. А тыя, вядома, былі ў сваю чаргу "заклятымі ворагамі". Нас увесь час вучылі "шукаць і знаходзіць ведзьмаў". Такія былі псіхалагічныя ўмовы.

*Станіслаў ШКАДЗІНСКІ.*

## В.Парфёнаў: ЭКАЛОГІЯ ПАВІННА ПАДПАРАДКАВАЦЬ САБЕ ЭКАНОМІКУ

**Навуковая і грамадская дзейнасць кожнага сапраўднага вучонага не спыняецца і пасля юбілею. Гэты рубеж — толькі адна з вех падвядзення вынікаў работы, стартавая пляцоўка да новых здзяйсненняў і задум.**

**Сёлета юбілейны год і ў вядомага вучонага рэспублікі, акадэміка АН Беларусі, доктара біялагічных навук прафесара Віктара Іванавіча Парфёнава. Больш за два дзесяцігоддзі ён узначальвае Інстытут эксперыментальнай батанікі імя В.Ф.Купрэвіча АН Беларусі, доўгі час стаіць на чале навуковага савета па праблемах біясферы АН Беларусі.**

**Багаты творчы плён у вучонага-батаніка. Ім выдадзены больш за тры дзесяткі навуковых кніг па розных праблемах біялогіі, надрукавана шмат артыкулаў у перыядычным друку. У 1972 годзе В.І.Парфёнаву прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР за цыкл работ па вывучэнню расліннасці Беларусі.**

**У сённяшні складаны і супярэчлівы час акадэмік В.І.Парфёнаў не траціць надзеі, што навука выйдзе з заняпаду. Сваімі меркаваннямі і роздумам па некаторых пытаннях экалагічнай навукі, аховы прыроды ён дзеліцца з чытачамі.**

*— Віктар Іванавіч, пачнём з, так сказаць, глабальнага пытання. Экалагічнае становішча ў рэспубліцы з кожным годам пагаршаецца. Гэта наш паўсядзённы клопат, наша трывога і боль. Якое выйсце? Эканоміка і экалогія, як вядома, цесна звязаны. Але ці выратуюць нас праграмы выхаду з крызісу? Якое Ваша бачанне перспектыў паляпшэння экалагічнай сітуацыі?*

— Нельга не заўважыць: акрамя эканамічнага, мы на парозе і экалагічнага крызісу. А гэта, паверце, яшчэ больш небяспечна. Многія сённяшнія страты ў экалогіі незваротныя.

Якое ж выйсце з гэтай сітуацыі? Вельмі цяжка даваць аптымістычныя прагнозы, тым больш ва ўмовах, калі нястрымна падае мараль грамадства — ад простага абываццеля да дзяржаўнага чыноўніка. Усе мы павінны зразумець, што ў сваім доме ("экас" па-грэчаску — дом, радзіма) навесці парадак можам толькі мы самі. Чалавек павінен урэшце зразумець, што ён — часцінка той прыроды, якую ён нярэдка неўсвядомлена называе "роднай". Але як цяжка ў свеце меркантыльнасці думаць пра ўзвышанае!

З дзяржаўных пазіцый для паляпшэння экалагічнай сітуацыі я бачу стратэгічны напрамак — пераход вытворчасці на малаадходныя, рэсурса- і энергазберагаючыя тэхналогіі. Штосьці ўжо робіцца: мяркуецца ў недалёкім часе да 95 працэнтаў давесці ачыстку сцёкаў, на трэць знізіць выкіды брудных рэчываў у атмасферу. Яшчэ больш — плануецца. Да двухтысячнага года павысіць ступень ачысткі сцёкаў да ста працэнтаў, а на чарзе — зменшыць забруджванне глебы мінеральнымі ўгнаеннямі, хімічнымі сродкамі аховы раслін, павялічыць аб"ёмы перапрацоўкі адходаў.

Каб павысіць "экалагічную надзейнасць", усе праекты павінны праходзіць пазаведамасную экалагічную экспертызу, выносіцца на абмеркаванне грамадскасці. Павінна стаць правілам: шкодныя вытворчасці, недастаткова абгрунтаваныя ў сацыяльна-эканамічных ці экалагічных адносінах праекты павінны рашуча адхіляцца, дапрацоўвацца ці перапрафіліравацца з улікам апошніх дасягненняў навукі і тэхнікі.

Распрацаваны і рэалізуюцца шэраг праграм па розных аспектах аховы біясферы. Адна з важнейшых — рэспубліканская комплексная навукова-тэхнічная праграма "Ахова прыроды" на 1991—95 гады і на перспектыву да 2000 года. Рыхтуецца нацыянальная праграма "Экалогія".

*— Балючая тэма — радыеактыўнае забруджванне тэрыторыі Беларусі. Але цяпер востра паўстала і праблема энергетычнага крызісу. Якое ж выйсце: будаваць АЭС ці шукаць новыя крыніцы энергіі? Ці ёсць альтэрнатыва атамным станцыям?*

— Беларуская нацыя спаўна спазнала вынікі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, больш таго, гэты страшны тэхнагенны фактар нарадзіў пачуццё недаверу і боязі. Ён змяніў наш характар, унутраны свет людзей. Але тым не менш, энергетычны крызіс, які пастукаўся ў нашы дзверы, прымусіў задумацца: як быць? як жыць далей?

Як грамадзянін шматпакутнай Беларусі, я не хачу новай атамнай небяспекі і таму катэгарычна супраць будаўніцтва ў нашай краіне атамных станцый, нават пры максімальнай іх надзейнасці. Выйсце з энергетычнага крызісу я бачу ў паўсюднай эканоміі энергарэсурсаў, пошуку і распрацоўцы нетрадыцыйных крыніц электраэнергіі — у будаўніцтве невялікіх гідрастанцый, а таксама ветравых, сонечных, біягенных і г.д.

Але, як вучоны, разумеючы перспектывы энергаспажывання, я не магу адмаўляць неабходнасці ўзвядзення АЭС. Пры адной умове: будучыя атамныя станцыі павінны быць прынцыпова новыя па праекту, ідэі і поўнасцю бяспечныя.

*— На Беларусі ўзведзена шмат буйных прадпрыемстваў: хімічных, нафтаперапрацоўчых, машынабудаўнічых, жывёлагадоўчых комплексаў. Так, яны ўзмацнілі прамысловы патэнцыял краіны, выпускаюць карысную для народа прадукцыю. Але ж празмерна забруджаны вада, зямля, паветра, а, значыць, пагоршылася здароўе людзей. А ці нельга было загадзя прадбачыць такое становішча, неяк скарэкціраваць "размах" будаўніцтва (асабліва хімічных гігантаў у буйных гарадах)? Пакуль не позна, што можна зрабіць цяпер па аздараўленню прыроды?*

— Глядзіце, што адбылося з размяшчэннем вытворчых магутнасцей на тэрыторыі рэспублікі. Насуперак рэкамендацыям прыродаахоўнай навукі, нават папярэджанню, літаральна па перыметры і ў цэнтры тэрыторыі, нягледзячы на унікальнасць яе фізіка-геаграфічнага становішча — водападзел басейнаў Чорнага і Балтыйскага мораў, — была створана частая сетка хімічнай вытворчасці: у Гродне, Наваполацку, Магілёве, Салігорску, Гомелі, Мазыры. Гэтыя хімічныя комплексы з непаўнацэннай тэхналогіяй стварылі звышнагрузкі на прыроднае асяроддзе Беларусі.

Аднačасова раслі гіганты машынабудавання, энергетыкі, развіваліся камунікацыі і транспарт. "Гэта ж добра", — скажа чытач. Так, але пры адной умове: каб усе вытворчасці не шкодзілі прыродзе і, значыць, здароўю людзей. Але... Густая сетка індустрыяльных цэнтраў мела ўстарэлыя, экалагічна шкодныя і рэсурсазатратныя тэхналогіі. Між прамысловымі кангламератамі створана сетка буйных жывёлагадоўчых комплексаў, якія не менш небяспечныя для прыроды, чым прамысловыя цэнтры. Большасць такіх комплексаў на дзесяткі тысяч галоў жывёлы не маюць эфектыўных ачышчальных збудаванняў.

Стан прыроднага асяроддзя катастрафічна пагоршыўся пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Трэцяя частка тэрыторыі Беларусі насычана радыеактыўным брудам. Выйсце адно: трэба па-навуковаму вырашаць экалагічныя праблемы ў рэспубліцы.

*— Меліярацыя ацэньвалася ў нас, бадай, толькі па тым, што дадуць эканоміцы рэспублікі новыя плошчы. А экалогія? У мяне такое ўражанне, што пра яе забыліся. Ды, зрэшты, павінны ж быць выпрацаваны нейкі стратэгічны кірунак, бо вопыт Палесся многаму навучыў.*

— У рэгуляванні воднага рэжыму маюць патрэбу 7,9 мільёна гектараў, што можна ажыццявіць толькі пры дапамозе гідратэхнічнай меліярацыі. Іншых шляхоў сучасная навука не ведае.

Меліяраваныя землі даюць сёння каля трыццаці працэнтаў прадукцыі раслінаводства, у тым ліку сорак працэнтаў кармоў. У Брэсцкай вобласці прадуктыўнасць меліяраванага гектара павялічылася з 13,2 цэнтнера кармавых адзінак да 55.

Адчувальна паўплывала на прыроду асушэнне зямель на пачатковым этапе буйнамаштабнага меліярацыйнага будаўніцтва на Палессі. Яно праводзілася пераважна без уліку экалагічных умоў і патрабаванняў аховы прыродных комплексаў. Мы неаднаразова ставілі пытанне аб спыненні асушэння зямель у пойме Прыпяці. І сёння пацвярджаю: у даліне Прыпяці не трэба праводзіць гідрамеліярацыю на новых плошчах. Наспела неабходнасць скараціць аб"ёмы асушэння зямель у паўночнай і цэнтральнай частках Беларусі. Галоўную ўвагу трэба надаць рэканструкцыі маральна ўстарэлых і фізічна зношаных меліярацыйных сістэм, павышэнню прадуктыўнасці ўжо меліяраваных плошчаў.

*— Віктар Іванавіч, вы доўгі час узначальваеце навуковы савет па праблемах біясферы АН Беларусі. Пэўна ж, ён уплывае на экалагічную палітыку на Беларусі?*

— Дванаццаць гадоў узначальваю яго. Нават да апошняга часу, нягледзячы на тое, што ўзнікала шмат структур каляэкалагічнага плана (асацыяцый, саветаў, фондаў і г.д.), савет з"яўляецца прыцягальнай сілай для лепшых вучоных. А функцыя яго — каардынацыя навуковых даследаванняў у галіне аховы біясферы. Але цяпер справа некалькі ўскладнілася. Нават у нас у Акадэміі навук з"явілася новая структура — экалагічная камісія, якая па сутнасці складаецца з тых жа членаў, што і навуковы савет, і выконвае тыя ж самыя функцыі. Я выступаў і на гадавым сходзе АН, і ў прэзідыуме Акадэміі. Клопат адзін — трэба рабіць усё, каб не было распылення сіл. Але...

Не так даўно арганізаваны пры Міністэрстве прыродных рэсурсаў навукова-даследчы цэнтр "Экалогія". Я некалькі разоў выступаў, даводзіў, што гэта памылка дзяржаўнага маштабу. Як можна было пагадзіцца на яго стварэнне, не разумею. Вядома, што Міністэрству патрэбны мазгавы цэнтр, група вучоных, кансультантаў ці саветнікаў, і гэта можна арганізаваць на грамадскіх асновах.

Вядома, чыноўнікі наўрад ці пойдуць на тое, каб мадэрнізаваць цэнтр. А мо ён павінен стаць галаўным, мо пры ім стварыць нейкі орган, навуковы ці іншы? Але хто яго ўзначаліць? Калі лідэры цэнтра, то вельмі добра. А калі іншыя спецыялісты, якія не лічацца ў штаце цэнтра, то, я прашу прабачэння, навошта тады ён?

*— Суверэнітэт і рынак. Які ўплыў на навакольнае асяроддзе зробяць (ці ўжо робяць) гэтыя два фактары?*

— Хачу падкрэсліць, што экалагічнае становішча са з"яўленнем новых форм уласнасці, на маю думку, пагоршыцца, таму што прыродныя рэсурсы ўсё больш становяцца аб"ектам эканамічных інтарэсаў асобных галін, прадпрыемстваў, канцэрнаў, прадпрыемцаў. У агульным кантэксце развіцця палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы жыццё патрабуе карэннага перагляду поглядаў і падыходаў да многіх пытанняў, у тым ліку і да экалогіі. Пры гэтым несумненна адно — патэнцыял прыгладжвання, прыхарошвання экалагічных праблем вычарпаны, час палавінчатых мер мінуў. У экалагічнай палітыцы патрэбны рашучыя, нестандартныя падыходы, глыбока прадуманыя крокі, якія б улічвалі асаблівасці прыродна-гаспадарчых умоў рэспублікі і яе магчымасці.

Усім нам неабходна ўсвядоміць, што ніякія эканамічныя, сацыяльна-палітычныя праблемы не павінны паўплываць на паглыбленне экалагічнага крызісу. Сучасная рыначная анархія павінна спыніцца перад святымі праблемамі экалогіі і экалагічнай бяспекі рэспублікі. Экалогія павінна падпарадкаваць сабе эканоміку.

І давайце закончым на аптымістычнай ноце.

Я ўпэўнены: спрацуе адна з высокіх якасцей беларускага народа — сумленне і гонар беларуса, яго прыродная беражлівасць.

*Распытваў і занатоўваў Алесь ДЗЯТЛАЎ.*

■ Взгляд на проблему

## САМООБМАН

### Нам надо всеми возможными средствами искоренить "дедовщину" в армии

**У памятников и обелисков, у могил воинов, погибших в боях за Родину, мы отдаем должное героям, верным сынам Отечества. Но когда, например, соседу по дому, где я живу, Константину Головачу и его жене Рене привезли цинковый гроб с телом сына, то ничего, кроме всеобщего возмущения и душевной боли, этот факт ни у кого не вызвал.**

В самом деле: парень был не на войне и погиб он не в бою, а в своей же воинской части. А причина смерти — так называемая "дедовщина". И если бы это был единственный случай... Но таких примеров уже более чем достаточно и давно пора переходить к строгим выводам. Мы не вправе ограничиваться лишь сочувствием родителям, справедливому негодованию матерей. Ведь их сыновья погибают в мирное время и лишь потому, что в нашей сегодняшней армии допускается правовой беспредел по отношению к вчерашним школьникам.

Мы, педагоги, учили ребят гордиться службой в армии, ибо она делала их физически закаленными, мужественными, умелыми, ловкими, честными, короче говоря, настоящими мужчинами.

Именно так у нас всегда и было. Приезжая в отпуск, наши юные солдаты гордились своей армейской формой, воинской выправкой, на них одобрительно глядели окружающие. Ребята в солдатской форме были полны решимости не на словах, а на деле, если понадобится, встать с оружием в руках на защиту родной земли.

А сегодня картина, к сожалению, изменилась: родители с большой тревогой провожают своих сыновей в армию. Уже и педагоги теряют прежний энтузиазм. А ведь еще вчера внушали своим воспитанникам: служить в армии, исполнять воинский долг — почетная обязанность. В чем же тут дело? К сожалению, многие парни не случайно стали уклоняться от службы, так как в армии процветают неуставные взаимоотношения.

"Дедовщина", как известно, не ограничивается разными издевательствами со стороны старших над младшими. Дело доходит до прямого насилия, а порой и до убийств. Новобранцы, будучи воспитаны как порядочные люди, не могут смириться с требованиями казарменных наглецов.

Откуда же берутся в армии эти нахалы? Некоторые из них призваны в войска после тюрьмы, они приносят с собой в армию бесчеловечные повадки и выходки озверелых камерников. Почему же тех, кто пришел сюда после тюрьмы, размещают в казармах вместе с нормально воспитанными ребятами? Почему их не изолируют? Оказывается, для того, чтобы вчерашних тюремщиков перевоспитывали добропорядочные, законопослушные парни. Чем кончаются такие "перевоспитания", мы уже знаем.

Почему даже ярых представителей "дедовщины" редко судят показательным судом? Почему бы эти судебные процессы не показывать по телевидению? Зато дают возможность увидеть на экранах "механику" издевательств над молодыми солдатами.

В средствах массовой информации не иссякает печальная статистика гибели солдат на действительной службе от рук армейских подонков, которых почему-то даже не называют преступниками. Удивительное дело: бывший министр обороны Республики Беларусь, приводя данные о погибших юных солдатах, тут же дал оправдательное сравнение: в других регионах СНГ эти цифры гораздо выше, чем в Беларуси. Так что мы чуть ли не молодцы...

Выходит, успокаиваем самих себя, занимаемся самообманом в целях мнимой самообороны? Да, наши вчерашние школьники не без причин опасаются армейской службы. Но зачем же тогда мы называем не прибывших в военкоматы призывников чуть ли не преступниками? Зачем судим их, а не тех, кого следовало бы? Да, с их стороны уклонение от армейской службы — наивная самооборона. Но разве меры со стороны государства в этих случаях не менее наивны?

К сожалению, у нас не стало мощной и единой Советской Армии. Сегодня, как и в других республиках, у нас свои Вооруженные Силы. Вот почему мы не можем больше ждать приказов и директив из Москвы о борьбе с "дедовщиной". Надо самим наводить порядок.

Новый министр обороны Республики Беларусь, конечно, может кое-что предпринять. Но, пожалуй, этого будет недостаточно. Полагаю, надо принять соответствующий закон, в котором должны быть четко оговорены обязанности должностных лиц по полному искоренению в армии этих преступлений, других негативных явлений. И делать это надо безотлагательно.

*Яков ЛИФАНОВ, педагог, член Союза журналистов.*

## Уладзімір Сямёнавіч ЦАРЫКАЎ

7 кастрычніка 1994 года заўчасна памёр Уладзімір Сямёнавіч Царыкаў — дэпутат Мінскага абласнога Савета.

У.С.Царыкаў нарадзіўся 30 жніўня 1947 года ў вёсцы Хадаровічы Горацкага раёна Магілёўскай вобласці.

Свой працоўны шлях пачаў у 1965 г. рабочым Усходне-Сібірскай чыгункі.

Пасля службы ў радах Савецкай Арміі У.С.Царыкаў працаваў у сістэме меліярацыі Мінскай вобласці, кіраваў МПМК-92 абліжкалгасбуда, працаваў галоўным інжынерам вяслярнага канала Мінгарспорткамітэта, намеснікам начальніка ПМК-1 канцэрна «Прамысловец», у 1993 г. пайшоў на пенсію па стану здароўя.

Выбіраўся старшынёй выканкома Заслаўскага пасялковага, старшынёй Заслаўскага гарадскога Саветаў дэпутатаў.

На ўсіх участках работы Уладзімір Сямёнавіч быў сумленным, старанным работнікам, высокаадукаваным спецыялістам, здольным арганізатарам і ўмелым кіраўніком.

Яму былі ўласцівыя пастаянная ўвага да людзей, іх патрэб і запатрабаванняў.

У.С.Царыкаў прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, неаднаразова выбіраўся дэпутатам Заслаўскага пасялковага і гарадскога, Мінскага раённага Саветаў, дэпутатам абласнога Савета.

Светлая памяць пра Уладзіміра Сямёнавіча Царыкава назаўсёды застанецца ў памяці тых, хто яго ведаў і разам з ім працаваў.

**А.І.Цішкевіч, М.М.Бандарчык, А.І.Гіро, В.М.Дземідовіч, К.К.Дзягілеў, А.У.Зяпевіч, В.М.Кулініч, С.П.Кунцэвіч, А.Г.Максімовіч, А.В.Панчанка, М.І.Русы, А.А.Саматохін, У.В.Сасноўскі, К.К.Хвянько, М.І.Хаванскі, М.М.Худая, В.Р.Баранаў.**

■ Блицинтервью

## В ПОДМАСТЕРЬЯ НЕ НАНИМАЛИСЬ

**Все средства массовой информации облетела весть: милиция в гражданской форме будет отлавливать "зайцев". Насколько верны такие утверждения? Вопрос начальнику УВД облисполкома В.А.БОСАЛЫГО.**

— К нам таких предложений не поступало. У милиции другие функции — ловить преступников. А контролеры пускай справляются с возложенными обязанностями своими силами.

— А если возникнет непредвиденная ситуация? Например, пьяный начнет дебоширить.

— Тогда другое дело. Сотрудники органов внутренних дел помогут погасить конфликт. Разберутся и с нечистым на руку водителем, который деньги за проезд кладет в собственный карман.

Так что слухи о нашей новой роли сильно преувеличены.

■ Лёсы людскія

## ВЯРТАННЕ

АЛЯКСЕЙ задыхаўся ў цемры. Яму хацелася сваімі маладымі і дужымі рукамі разарваць астрожныя краты, выйсці з турмы і крыкнуць людзям: "Не злачынец я, а вясковы настаўнік, які хацеў сялянам зямлі і волі!" Але краты былі моцныя, і ніхто не спяшаўся выпускаць нявольніка. Каля года прасядзеў ён у сырой камеры, пакуль судовая палата не асудзіла яго да трох гадоў ссылкі на Поўнач.

Аляксея Васільевіча Бегуна павезлі з Мінска далёка ад родных ніў і лясоў, ад беларускага гоману і сялянскіх дзетак, якіх ён вучыў усяго два гады. Царскія ўлады не любілі тых, хто заступаўся за бедных і няшчасных. Яны арыштавалі бунтаўшчыка-агітатара, адарвалі ад пачатковай школы і пагналі на перавыхаванне ў чужы край. Можа, там адумаецца, стане пакорлівы і паслухмяны. Амаль месяц дабіраліся да Архангельскай губерні. Халоднае дыханне Белага мора не спалохала настаўніка. Не выклікала разгубленасці і тое, што да месца ссылкі, глухога паўночнага сяла Азаполле, можна дабрацца толькі па рацэ Мязень. Калі ж яна замярзала і яе заносіла снегам, сувязь са знешнім светам абрывалася.

Восенню 1907 года выгнанніка прытуліла на сваёй кватэры вялікая сям'я Падрухіных, аддаўшы яму маленькую бакавушку. Спачатку Аляксей пазбягаў сустрэч з незнаёмцамі, не ведаў, што думаюць пра яго, ссыльнага. Але ўжо першая размова ўшчэнт развеяла яго тугу:

— Палітычных тут паважаюць, у крыўду не дадуць.

Нібы камень ад сэрца адваліўся. Толькі ні на хвіліну не пакідалі думкі пра бацькоў, якія засталіся ў вёсцы Пярэжыр, што недалёка ад Мар'інай Горкі. Бедныя малазямельныя сяляне, яны ганарыліся сынам, які стаў настаўнікам. Не ўсе ж маглі вучыцца, школ не хапала. Да жабрацкага жыцця давялі сялян, куды ні кінься — усюды "асадзі назад". Аляксей мог толькі здагадвацца, чым скончыліся вымушаныя пратэсты сялян у вёсках Турэц, Смілавічы. Спагадай, палымяным словам падтрымаў ён пакутнікаў. Хто ж падтрымае, калі не інтэлігент. Вось і схапілі дабрадзея...

Азапольцы хутка звярнулі ўвагу на высокага, прыгожага і памяркоўнага беларуса. Бягун не сядзеў без справы, чым мог, дапамагаў жыхарам Поўначы: пілаваў дровы, штосьці будаваў, касіў. Праўда, ніяк не мог ён прыняць нязграбнай касьбы вялізным сярпом. Кос не было, Аляксей заказаў іх у металічнай майстэрні. Змайстравалі такія, як пад Мінскам, навучыў сялян імі касіць. З таго часу толькі і чуліся словы ўдзячнасці. Потым ссыльны напісаў у Пярэжыр, каб маці прыслала насенне ячменю, моркавы, бэзу. І гэта таксама прыйшлося даспадобы людзям. З самымі маленькімі настаўнік вывучаў азбуку, рыхтаваў іх у школу. Разам з іншымі ён увёў новую традыцыю праводзіць масавыя святы на беразе ракі Мязень. З раніцы ў нядзелю там збіраліся сотні людзей, чыталі вершы, спявалі і танцавалі пад гармонік. Папулярнасць ссыльнага расла, і на яго крадком заглядваліся мясцовыя дзяўчаты. А прыгажуня Феліцата Падрухіна, любімая дачка гаспадара, нават спакой згубіла, не магла і дня пражыць без Аляксея.

— Усё гэта вершыкі і маладосць нарабілі, — жартаваў гаспадар.

А падзеі разгортваліся не на жарт. Бацька дзяўчыны адчуваў, што Аляксей хоць і добры хлопец, але ж яго нічым не ўтрымаеш на суровай Поўначы. Таму вырашыў аддаць Феліцату за багатага ўдаўца. І вось настаў хвалюючы момант, ужо былі запрэжаны коні, каб ехаць вянчацца ў царкву. Але лёс распарадзіўся інакш. Нявесту выкралі, і яна разам з Аляксеем збегла ў суседняе сяло, дзе закаханыя і павянчаліся. Вядома, не абышлося без дапамогі мясцовай моладзі. Каханне, як найвялікшая справядлівасць, святкавала перамогу.

У БАЦЬКОЎ не каменнае сэрца. Яны даравалі ўцекачам, якія праз некалькі тыдняў вярнуліся дадому. Аляксей ахвотна хадзіў з гаспадаром у лес, на рыбалку, але жыць маладажоны пажадалі асобна і перайшлі ў другую хату. Калі скончыўся тэрмін ссылкі, ён з сумам развітаўся з гасціннымі людзьмі, з якімі так моцна парадніўся. На вольнае пасяленне, месцам якога Бягун выбраў Салавецкія астравы, ён паехаў не адзін, а разам з жонкай і гадавалым сынам Васільком.

Не чароўныя пейзажы, не дзівосныя цуды драўлянага дойлідства пацягнулі Аляксея на Салаўкі, а празаічная неабходнасць зарабіць. Летам 1910 года багатыя манахі там распачалі будаўніцтва электрастанцыі. Бягун навучыўся лазіць па слупах, замацоўваць на іх фарфоравыя ізалятары. Вольнапасяленец быў спрытны, асцярожны, але аднойчы яго напаткала бяда. Ён сарваўся са слупа і паляцеў уніз. Моцна пабіў аб зямлю грудзі. Феліцата некалькі дзён не адыходзіла ад мужа, залівалася слязамі. Што яна тут зробіць адна сярод чужых людзей? Папраўіўшыся, Аляксей прапанаваў жонцы:

— Паедзем да маіх бацькоў пад Мінск, там не прападзём.

У пачатку 1912 года Бягун са сваёй "русачкай" і двухгадовым сынам прыехаў у Пярэжыр. У хату збеглася амаль уся вёска. Колькі было радасці і прыемных размоў! Феліцата ўпершыню сустрэлася з беларускімі сялянамі і адразу адчула, што яны вельмі сціплыя і добразычлівыя.

Аляксей ездзіў з бацькам у лес па дровы, дапамагаў карміць жывёлу. Але яму карцела сустрэцца з тымі, хто працаваў у рэвалюцыйным падполлі. Яму хацелася падрабязна высветліць, за што старэйшы брат Канстанцін загрымеў летась у Сібір ажно на 12 гадоў. Варта было Аляксею наладзіць сувязі з дукорскімі падпольшчыкамі, пагутарыць з Данілам Гуло, як неўзабаве папаўзлі нядобрыя чуткі. Праз нейкі час у хаце з'явіўся злосны жандар і строга папярэдзіў:

— Не парвеш з бунтаўшчыкамі — арышту не мінуць.

Трэба было штосьці рабіць, неяк ратавацца. У той час шмат людзей уцякала ў Амерыку, і Аляксей вырашыў падацца туды. У жонкі пацямнела ў вачах, яна заплакала:

— А як жа я з дзеткамі?..

— У крыўду не дадзім. Вы ж усе нашы, роднenькія, — загаварылі бацька і маці. — Змарнуюць тут Аляксея.

Нянавісць царскіх апрычнікаў да Бегуна гнала яго, беларускага настаўніка, у далёкую Амерыку. І гэта тады, калі на тысячу насельніцтва Расіі ў школах вучылася 45 чалавек, а ў ЗША — 220.

КАЛЯ месяца гойдаўся па бурлівым акіяне. Нарэшце, прышвартаваліся ў велізарным Нью-Йорку. Але тут работы не знайшлося. Пачаліся вандроўкі па амерыканскіх гарадах. Спыніўся ў Чыкага. Тут было больш вады і прыгажосці, чым на рускай Поўначы, а прытулак знайсці не было дзе. З цяжкасцю ўладкаваўся прасаўшчыком. Бягун прасаваў чужую вопратку, а сам хадзіў у зношанай, прапахлай салёным морам. Пазнаёміўшыся бліжэй з жыццём амерыканскіх рабочых, ён зразумеў, што многія з іх таксама заняты тым, каб знайсці хлеба і справядлівасці. У Чыкага ён спазнаў усю бездань чалавечай знявагі і зноў вярнуўся да нелегальных спраў. Пацягнуўся да гурткоў самаразвіцця. Больш-менш авалодаўшы англійскай мовай, стаў чытаць кнігі амерыканскіх пісьменнікаў. Бягун уступіў у Амерыканскую сацыялістычную рабочую партыю, адчуў яе маральную і матэрыяльную падтрымку, выконваў розныя даручэнні. Як і на радзіме, ён быў арыштаваны паліцыяй, сядзеў у чыкагскай турме.

Першая сусветная вайна ўскладніла вяртанне Аляксея дамоў. Пасля рэвалюцыі ў Расіі амерыканскія сацыял-дэмакраты змянілі сваю тактыку, сталі рыхтаваць свой першы кангрэс. У яго падрыхтоўцы ўдзельнічалі Аляксей Бягун і іншыя рускія палітэмігранты. Ён быў дэлегатам першага кангрэса Камуністычнай партыі ЗША, які праходзіў у верасні 1919 года ў Чыкага. Самымі дарагімі фотаздымкамі, якія ён прывёз з Амерыкі, былі два: той, дзе ён разам з дэлегатамі, і той, дзе з кнігай.

У студзені 1921 года Аляксей Бягун прыехаў у Маскву, а адтуль, як на крылах, паімчаўся ў Пярэжыр, дзе яго чакалі родныя і блізкія. Цяжкім і доўгім было вяртанне на радзіму, затое, нібы ўзнагарода выгнанніку, — дома ўсё добра. Здаровыя бацька і маці, жонка, падраслі дачка Алена і асабліва Васілёк. На гэты раз Аляксей у вёсцы не затрымаўся. Крыху адпачыўшы, ён з усёй сям'ёй пераехаў у Мінск і стаў працаваць у адным з інфармацыйных аддзелаў.

Прыемна было жыць у вольнай рэспубліцы, куды вярталіся яе дзеці з розных куткоў свету. Нечакана Бягун сустрэў яшчэ аднаго "амерыканца" — Івана Аноцкага. Надакучыла яму батрачыць на гродзенскіх паноў, і ён на год раней за Аляксея паехаў у Амерыку. Працаваў на аўтамабільным заводзе Форда, двойчы сядзеў у дэтройцкай турме. Было што ўспомніць сябрам па няшчасцю.

Бягун, Аноцкі і мноства іншых беларускіх рээмігрантаў з радасцю ўключыліся ў будаўніцтва новага жыцця без эксплуатацыі. "Краіна мая! Паглядзі, як зара ружавее..." — чытаў Аляксей на старонцы "Звязды", прысвечанай 3-гадоваму юбілею новага літаб'яднання "Маладняк". У газеце змешчаны фатаграфіі маладнякоўцаў, гутарка са старшынёй аб'яднання Міхасём Чаротам. Мацней забілася сэрца Бегуна ад сустрэчы з магутным талентам. Чарот — рудзенскі хлопец, зямляк Аляксея, рэдактар газеты "Савецкая Беларусь". Якая паэтычная моц выказана ў яго цудоўнай паэме "Босыя на вогнішчы"!

БЫЛО дзе праявіць свае здольнасці і яму, Аляксею Бегуну, калі трапіў на работу ў Барысаў. Колькі людзей пачынала жыць па-новаму, колькі прадпрыемстваў у горадзе рэканструявалася! Ён бываў на запалкавай фабрыцы, шклозаводзе, будаўніцтве новых дамоў, шчыра гутарыў з рабочымі, сялянамі, настаўнікамі. Хіба ж не было яго ролі ў тым, што барысаўскія дрэваапрацоўшчыкі зэканомілі тысячы рублёў, што ўсюды падтрымлівалася свядомая дысцыпліна?

Развіццю Барысава дапамагалі рускія і ўкраінцы. Разам з Аляксеем працаваў вельмі старанна Сямён Стандэнцкі з Чарнігаўскай губерні. Былы электрык Юзаўскага завода, змагар супраць царскага прыгнёту, ён таксама, як і Бягун, быў арыштаваны. Пакаранне адбываў у Нарыльскім краі. Разам з беларусамі ваяваў у Багунскім палку пад камандаваннем Мікалая Шчорса.

На сваім жыццёвым шляху Бягун сустрэў нямала здольных людзей, але з асаблівай цікаўнасцю ставіўся да тых, хто калісьці ўцякаў у Амерыку. А такіх было шмат. Самыя сумленныя і адданыя сваёй зямлі вярнуліся назад, нягледзячы на тое, што там "лепш". Яны ўсім сэрцам разумелі, што лепш за бацькаўшчыну на свеце не бывае. Таму на з'ездах ці нарадах у Мінску Бягун любіў пагутарыць з "амерыканцамі" Паўлам Вілянстовічам, Алесем Сянкевічам, земляком Алесем Федарынчыкам, якія ў той час, як і ён, працавалі ў дзяржаўна-партыйных органах. У 30-я гады Бегуна паслалі ў Парычы, дзе будавалі МТС, потым ён узначаліў гэтую станцыю. У разгар рэпрэсій адклікалі ў Мінск і "пасадзілі" на прафсаюзную работу.

У 1938 годзе ў Мінску ўжо не было ні А.Сянкевіча, ні М.Чарота, ні многіх іншых. Бягун меў пасаду мізэрную, мо таму яго не спяшаліся залічваць у спіс "ворагаў народа". Дарэчы, на яго, загартаванага ліхалеццем, не вельмі ціснула спружына страху. Ды раптам супрацоўнікі НКУС схапілі брата Герасіма, які працаваў на Мінскай чыгунцы, і расстралялі яго за "шкодніцтва". Чорны цень лёг на Аляксея Бегуна, якога тэрмінова знялі з пасады. Калісьці цэлымі днямі хадзіў ён беспрацоўным у Амерыцы, цяпер абрыдлае бадзянне паўтарылася ў Мінску. Нарэшце, уладкаваўся ў домакіраўніцтве.

У СЯРЭДЗІНЕ чэрвеня 1941 года Бягун паехаў адпачываць у Крым. Праз тыдзень пачалася вайна. Санаторый эвакуіравалі ва Узбекістан. Аляксея Васільевіча выбралі старшынёй аргбюро абкома прафсаюза Бухарскай вобласці. Праз нейкі час да яго прыехалі жонка і дзве дачкі. Сын Васіль, інжынер-капітан Чырвонай Арміі, ваяваў на фронце, загінуў у Растоўскай вобласці. І бацька не дачакаўся перамогі — А.В.Бягун памёр 7 лютага 1943 года ад тыфу і пахаваны ў Бухары...

Нядаўна я адшукаў у Мінску дачок Аляксея Бегуна, якія дапамаглі ўдакладніць некаторыя дэталі яго біяграфіі. Натуральна, мяне цікавіла, як яны ставяцца да ўсяго, чым жыў Аляксей Васільевіч.

— Жыццё бацькі авеяна рамантыкай, духам свайго часу, — адказала Зінаіда Аляксееўна, кандыдат біялагічных навук, — і яно вельмі дарагое для нас як напамінак аб тым, што чалавек не можа жыць толькі для сябе, тым больш — для грошай. Ён і яго сябры жылі і для сябе, і для іншых, імкнуліся змяніць абставіны, зрабіць іх лепшымі. Яны — часцінкі жывога працэсу гісторыі. І аб сваім развіцці яны дбалі таксама. Бацька ведаў тры мовы, яго захаплялі творы Коласа, Чэхава, Джэка Лондана, вельмі любіў сваіх дзяцей, сваякоў, сяброў.

— А жонка для яго была ўвасабленнем прыгажосці і спагады, — дадала Алена Аляксееўна, былы дырэктар швейнай фабрыкі. — Колькі ён прыносіў ёй кветак і падарункаў! Колькі пяшчоты і дабрыні было ў яго голасе! Я ўпэўнена, што ён не ў адказе за тых, хто забіваў нашага дзядзьку Герасіма і сотні іншых. Каму і навошта спатрэбілася забіваць? Хай бы хто праўдзіва і ўсебакова адказаў на гэтае балючае пытанне. Бо тое, што зараз пішуць аб рэпрэсіях, мяне не задавальняе, нават раздражняе.

ГЭТУЮ карэспандэнцыю прашу лічыць трэцім вяртаннем Аляксея Бегуна на радзіму, дзе ён і павінен застацца навечна.

*Эдуард КАРНІЛОВІЧ, кандыдат гістарычных навук.*

